

*магілёўскі*

# Выбар

**№ 9**
**Чэрвень**
**2012 г.**

*Абласная Дэмакратычная Трыбуна*

## МДК: “ДА БАЙКОТУ ВЫБАРАЎ… НЕГАТОВЫ!”




**Магілёўская дэмакратычная кааліцыя праз інтэрв’ю Юрыя Новікава газеце “Тут і Цяпер” абвесціла пра пачатак пэўнай працы для ўдзелу сваіх прадстаўнікоў у маючых адбыцца ўвосень бягучага года парламенцкіх выбарах. Менавіта гэты фрагмент інтэрв’ю мы падаем і ў нашай газеце.**

- Так, пра байкот арганізацыйны мы сапраўдны не вядзем гаворкі. Мы разумеем, што байкот патрабуе вышэйшай арганізаванасці і арганізацыі, вышэйшай дысцыпліны і адказнасці. На жаль, такога ўзроўню наша дэмакратычная палітычная і грамадская праца яшчэ не дасягнулі. Тут шмат прычынаў і тлумачэнняў, адны з іх навідавоку – улада, недасканалае заканадаўства. Іншыя патрабуюць аналізу і гаворкі надта нетаропкай і некароткай (мы зараз пра гэта гаварыць не будзем). Абмяжуемся нашай кааліцыйнай канстатацыяй – да байкоту ні мы, ні выбарнікі не гатовыя. А таму і спекуляваць на гэтай тэме несумленна. А вось незалежныя назіральнікі – яшчэ адзін наш прыярытэт. Будуць нашы кандыдаты на выбарах ці здымуцца, а назіральнікі застануцца пры любым, як гаворыцца, раскладзе і сваю працу павінны будуць зрабіць пісьменна і дакладна. Іхная праца ў многім вызначае і тое, што ўсіх хвалюе і што насамрэч мае вялікае значэнне – будуць прызнаныя выбары легітымнымі ці не. Ніхто за нашых назіральнікаў не зробіць на гэты конт ні больш дакладных высноваў і не пакладзе на стол найбольш пераканаўчых доказаў. Ужо пачынаем працу з імі, каб на кожным выбарчым участку ў нас было як самае малое па 2 назіральнікі. І яны ў нас ёсць. Дарэчы, на мінулых прэзідэнцкіх выбарах у нас было ці не 400 незалежных назіральнікаў. Яны прайшлі адпаведную вучобу. Яны аддалі шмат часу і нерваў гэтай працы. Яны выявілі грамадзянскую стойкасць. Яны выстаялі пад ціскам сваіх дырэктараў і іншага начальства. Яны не паддаліся ціску начальніц выбарчых камісій, якія не саромеліся, ледзь што не па іхнаму, выклікаць міліцыянтаў. Яны ўрэшце склалі і падалі ў адпаведныя інстанцыі больш як 70 абгрунтаваных скаргаў на парушэнні падчас выбараў… Ці ж можна на такім фоне гаварыць аб суцэльнай слабасці апазіцыі і яе непапулярнасці?! А нядаўнія так званыя народныя сходы – адбыліся, нягледзячы на адмысловы і ўзмоцнены ціск з боку ўладаў на іх арганізатараў і ўдзельнікаў. Я так відавочна бачу, што настрой незадаваленасці жыццём па віне ўладаў і ўзровень

*(Пачатак. Заканч. на стар. 2)*

## У Круглым супрацоўнікі культуры і адукацыі перакваліфікоўваюцца ў прыбіральнікаў




У Круглянскім раёне Магілёўскай вобласці супрацоўнікі ўстаноў культуры, адукацыі і іншых арганізацый на рэгулярнай аснове працуюць у сельгаспрадпрыемствах, наводзячы парадак на жывёлагадоўчых фермах і ў маланаселеных вёсках. Райвыканкам разаслаў па арганізацыях і ўстановах распараджэнне з указаннем, колькі чалавек яны мусяць штодзённа дасылаць на працу па “навядзенні парадку на зямлі”.

“Людзей штодзённа адпраўляюць на разнастайныя брудныя работы, пры гэтым ніякай згоды ніхто ў іх не пытаецца, - распавядае грамадская актывістка з Круглага Зінаіда Мілешчанка. – Прыбіраюць сметнішчы ў маланаселеных вёсках, наводзяць парадак на жывёлагадоўчых фермах і так далей. Днямі вось супрацоўнікі аддзелаў культуры і адукацыі, банка даводзілі да ладу ферму ў вёсцы Глыбокае, якая належыць ПУП “ААБ “Цяцерына” Беларусбанка. Прыбіралі там гной, чысцілі кароўнікі. Людзі паміж сабой выказваюць скаргі, але адмаўляцца ад такой незаконнай працы не адважваюцца, баяцца згубіць сваю працу. Старшыня нашага

*(Пачатак. Заканч. на стар. 2)*

# МДК: “ДА БАЙКОТУ ВЫБАРАЎ… НЕГАТОВЫ!”




(Заканч. Пачатак на стар. 1)

грамадскай стомленасці нарастае. Засталося, дазвольце пажартаваць, самае малае – пераўтварыць гэта ў энэргію супраціву. Канешне, гэта першасная справа апазіцыі. Але я зусім не ўпэўнены, што гэтага можна дамагчыся праз стварэнне недзе па-за межамі “ценявога ўраду”. Усім, як гаворыцца, дзякуй за дапамогу і падтрымку, але нашы праблемы і нашы пытанні могуць быць вырашаны толькі тут і толькі намі самімі. Не хапае нам цэнтра каардынуючага не там недзе, а тут, у краіне. Вось бліжэйшая і актуальнейшая задача дня! На магілёўскую кааліцыю можна разлічваць тым сілам, якія прапануюць механізм яднання і сумеснай працы тут, у краіне. На жаль, такіх прапаноў са сталіцы да нас не паступае. Ды іх і ўвогуле асабліва не чуваць. Толькі і застаецца што звярнуцца да лідараў і іхных цэнтральных органаў – “ау, шаноўныя калегі, час ідзе!, не праспаць бы”. Не праспаць бы і выбары як магчымасць непасрэднага звяртання да людзей. Дарэчы, мы маем намер выпрацаваць для дэмакратычных кандыдатаў адзіны, як цяпер прынята гаварыць, мэсадж (пасланне), да выбарнікаў, дзе будуць у простай і даходлівай форме сфармуляваны не толькі нашы бліжэйшыя мэты ў напрамку дэмакратызацыі жыцця краіны, але і будзе агучаны пералік асноўных рэформаў, за якія нашы кандыдаты, пры ўмове абрання ў парламент, будуць адказваць перад выбарнікамі і перад кааліцыяй.

*Тэкст інтэрв’ю запісаў Віктар Войт* (Цалкам інтэрв’ю можна прачытаць на сайце svabodaby.net)

PS. Застаецца толькі нагадаць, што яшчэ ў сакавіку 2011 года адбылась апошняя канферэнцыя дэмакратычных сіл Магілёўскай вобласці, удзел у якой прынялі больш за сорак дэлегатаў, якія прадстаўлялі асноўныя апазіцыйныя палітычныя і грамадскія арганізацыі Магілёўскай вобласці, а таксама рэгіянальныя кааліцыі дэмакратычных сіл.

Дэлегаты канферэнцыі большасцю галасоў выказаліся за актыўны байкот маючых адбыцца ў 2012 годзе парламенцкіх выбараў. Магілёўскія дэмакраты выказалі меркаванне, што няма ніякага сэнсу прымаць удзел у так званых “выбарах”, пакуль у краіне ёсць палітвязні і няма дэмакратычных зменаў у існуючым выбарчым заканадаўстве.

“Пакуль у турмах і пад следствам знаходзяцца кандыдаты ў прэзідэнты і дэмакратычныя актывісты, мы ня маем маральнага права ўдзельнічаць у любых выбарчых кампаніях”, - такія словы казаў тады старшыня рады Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл Юрый Новікаў.

Здаецца, палітвязні ў краіне застаюцца да гэтага часу і выбарчае заканадаўства ўлады змяняць не збіраюцца, аднак зараз меркаванне ў лідара магілёўскіх дэмакратаў чамусьці рэзка змянілася…

***Іван Міхайлаў***

## У Круглым супрацоўнікі культуры і адукацыі перакваліфікоўваюцца ў прыбіральнікаў

(Заканч. Пачатак на стар.1)

райвыканкама сказаў кіраўнікам арганізацый, што прэзідэнт падчас наведвання Круглага загадаў працягнуць навядзенне парадку на зямлі і гэты загад павінен быць выкананы, гэта павінна быць данесена да людзей. Райвыканкам даслаў разнарадку ў кожную арганізацыю, колькі людзей патрэбна пасылаць на добраўпарадкаванне”.

. Сумна, што ўлады ў Круглянскім раёне для выканання ўказання кіраўніка краіны “аб навядзенні парадку на зямлі” пастаянна парушаюць правы працоўных.

***Іван Барысаў***

## Магілёўскі выцвярэзнік паставіў рэкорд

За тыдзень паслугамі медыцынскай установы скарысталіся 96 чалавек, паведамляе радыё “Магілёў”.

Сярод дастаўленых адсыпацца былі таксама і дзве беспрацоўныя жанчыны, якія пастаянна злоўжываюць алкаголем.

Не абыйшлося і без кур’ёзаў. 21 траўня ў “алкагатэль” быў дастаўлены бацька з двума сынамі. Раніцай члены сям’і прыехалі з вёскі ў Магілёў, дзе разышліся па асабістых справах. Праз некалькі гадзін сям’я аказалася ў зборы ў выцвярэзніку.

Да выходных у выцвярэзніку не было вольных месцаў. 26-27 траўня туды паступала па 15 чалавек у дзень.

*меркаванне*

# ЧАМУ ТАННЫ ГАЗ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ДАРАГІ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ




У час выступлення Аляксандра Лукашэнкі 8 мая 2012 года з пасланнем беларускаму народу і парламенту з боку так званых дэпутатаў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь прагучаў шэраг трывожных, для іх усведамлення, пытанняў. Пытанні тычыліся адносінаў нашай краіны з усходняй суседкай.

Калі нават паслухмяныя дэпутаты пачалі задаваць падобныя пытанні, то можна рабіць высновы, што ў вышэйшых беларускіх колах нарэшце прыходзіць разуменне аб поўным правале эканамічнага курсу краіны.

«Расіяне не прыйдуць і не забяруць нашыя прадпрыемствы. Я ініцыяваў стварэнне адзінай эканамічнай прасторы, але трэба, каб гэтае аб'яднанне адпавядала супольным крытэрам. Цяпер няма мясных, малочных войнаў. Пакуль няма нават дробных фактаў, што ёсць нейкая экспансія… Няма ў Расіі і Пуціна рэсурсаў, каб задушыць Беларусь. І ён ніколі на гэта не пойдзе», — прыйшлося апраўдвацца Лукашэнку.

А ці патрэбны Расіі зараз мясныя, малочныя войны з Беларуссю? Адназначна — не. Усе рычагі кіравання беларускай эканомікай зараз пераходзяць у рукі Крамля, што і ёсць экспансія ўсходняй суседкі.

Працэс перадачы гэтых рычагоў распачаўся неяк ціха, буднёна і незаўважна для беларускага грамадства — простым галасаваннем беларускіх парламентарыяў у час ратыфікацыі міжурадавага беларуска-расійскага пагаднення аб парадку фармавання коштаў (тарыфаў) пры пастаўцы прыроднага газу ў Беларусь. У выніку дадзенага кроку з'явілася пастанова Міністэрства эканомікі РБ №31 ад 11 красавіка 2012 года, згодна з якой фармаванне коштаў на газ для спажыўцоў — юрыдычных асоб (прадпрыемстваў) на тэрыторыі нашай краіны перадаецца ў рукі расійскага манапаліста «Газпрама».

Галасаванне парламентарыяў за ратыфікацыю дадзенага пагаднення нагадвае падзеі ў Вярхоўным Савеце БССР часоў сярэдзіны 20-га стагоддзя, калі тагачасныя дэпутаты падобным чынам галасавалі за перадачу беларускіх земляў суседняй краіне.

Канчатковае рашэнне аб перадачы рычагоў кіравання эканомікай нашай краіны Крамлю беларускім бокам было прынята яшчэ на этапе продажу акцый «Белтрансгаза» расійскаму «Газпраму». Узамен Беларусь, быццам бы, атрымала неблагія прэферэнцыі ў выглядзе таннага газу. Сярэднегадавы кошт якога ў 2012 годзе, паводле новага кантракта, складзе 165,6 долараў ЗША за тысячу кубаметраў.

Дадзены факт шматлікімі гарачымі галовамі; некаторымі «недалёкімі палітыкамі» і «вялікімі эканамістамі» быў успрыняты як аграмаднае дасягненне правячага беларускага рэжыму па продажу «іржавай трубы». Па-за ўвагай гэтых людзей застаўся той факт, што ад здзелкі па продажу «Белтрансгазу» беларускае грамадства не атрымала нічога…

Згодна з пастановай Міністэрства эканомікі Беларусі ад 28 снежня 2011 года №207 кошты на прыродны газ для юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў з аб'ёмам спажывання да 500 млн.куб.м. з 1 студзеня 2012 года захаваліся на ўзроўні мінулага года ў памеры 275,87 дол. ЗША за 1 тыс.куб.м., і 245 дол.ЗША — для спажыўцоў з аб'ёмам спажывання больш 500 млн.куб.м. Дык дзе ж тая выгода краіне, прадпрыемствам, для якіх кошты на газ не зменшаны, тым больш, што на тэрыторыі Беларусі замест «Белтрансгазу» ужо зараз распараджаецца «Газпрам»?

Малазаўважным для беларускага грамадства застаўся і той факт, што паводле міжурадавага пагаднення па продажу «Белтрансгаза» расійскі бок бярэ пад кантроль выпрацоўку і продаж элетраэнэргіі, у тым ліку і за межы краіны, выробленай з выкарыстаннем расійскага газу ў якасці паліва. Доля прыроднага газу пры выпрацоўцы электраэнэргіі ў нашай краіне складае болей за 90%.

*(Пачатак. Заканч. на стар. 4)*

# ЧАМУ ТАННЫ ГАЗ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ДАРАГІ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

*(Заканчэнне. Пачат. на стар. 3)*

Узнікае пытанне, чаму расійскі бок так зацікаўлены ў фармаванні коштаў на газ для беларускіх спажыўцоў, а таксама — аб’ёмаў электраэнэргіі, выпрацоўваемай на беларускіх прадпрыемствах?

А адказ вельмі просты. Такім чынам Крэмль спрабуе вярнуць сабе, як быццам бы, страты ад патаненне газу, пастаўляемага ў Беларусь, ды яшчэ і атрымаць неблагія прыбыткі за-за вялікай розніцы паміж сабекоштам выпрацоўваемай электраэнэргіі і яе рынкавым коштам. Бо кошты на электраэнэргію з кожным годам узрастаюць, а складнік паліва ў яе сабекошце дасягае 60%.

Акрамя таго, маючы такія «казырныя карты» (фармаванне коштаў на газ і кантроль за выпрацоўкай электраэнэргіі) на руках, Крэмль атрымаў рычагі ўплыву на працэс прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў, ужо ўнесеных кіраўніцтвам Беларусі ў прыватызацыйны спіс.

На наступным этапе, які хутчэй за ўсё пачнецца з надыходам бліжэйшай зімы, крамлёўскае кіраўніцтва яўна пачне праяўляць зацікаўленасць у «прыхватызацыі» буйнейшых аб’ектаў энэргасістэмы Беларусі, якія выкарыстоўваюць прыродны газ у якасці паліва.

Далей надыдзе чарга і заводаў, спажываючых значную колькасць як газу, так і электраэнергіі. Гэта прадпрыемствы нафтахімічнай прамысловасці, Беларускі металургічны камбінат,- Салігорскі калійны камбінат…

Ну, а за беларускімі ўладамі хутка застануцца толькі функцыі кіравання сістэмамі абслугоўвання, прадпрыемствамі па прыборцы смецця і т.п.

Відаць, іншага рабіць яны і не ўмеюць.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ***

## АД 1 ЧЭРВЕНЯ ПАДАРАЖЭЛА “КАМУНАЛКА”




Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў №486 ад 28 траўня.

Як інфармуе БЕЛТА, плацяжы сям’і з трох чалавек, якая пражывае ў тыпавой двухпакаёвай кватэры (агульнай плошчай 48 кв.м) з улікам ацяплення ўзрастуць на г17 тысяч рублёў. Паведамляецца, што з іх 10 тысяч — гэта падаражэнне цеплавой энергіі для ацяплення і гарачага водазабеспячэння, а 7 тысяч — паслугі водазабеспячэння і каналізацыі.

Такім чынам, камунальныя паслугі ў двухпакаўёецы для сям’і з трох чалавек улетку будуць складаць каля 140 тысяч рублёў, у ацяпляльны сезон — каля 220 тысяч.

У прэс-службе Саўміна нагадваюць, што тарыфы для насельніцтва на паслугі водазабеспячэння і каналізацыі не пераглядаліся з лютага 2011 года.

## Супрацоўнікі КДБ знішчылі 90 кілаграмаў трацілу

Супрацоўнікі Камітэту дзяржаўнай бяспекі выкрылі і знішчылі некалькі сховішчаў боепрыпасаў часоў Вялікай айчыннай вайны. Цяпер ідзе вышук «чорных капальнікаў», якія хавовалі свае небяспечныя знаходкі ў лясных масівах Магілёўскай вобласці.

## КТО ЗАПЛАТИТ ГОСУДАРСТВУ — БЫВШИЙ ДИРЕКТОР ЛВЗ ИЛИ ЕГО БЫВШАЯ ЖЕНА?



Не так давно авторитетный белорусский портал naviny.by разместил сообщение под интригующим названием «Кто должен платить по счетам зэка?». Автор материала журналист Виктор Федорович рассказал о ситуации, которая при всей необычности случившегося является достаточно типичной для нашей системы правосудия. Но вначале — подробности.

Бывший генеральный директор Климовичского ликероводочного завода Вячеслав Ромашкевич был приговорен к 10 годам лишения свободы ещё в 2009 году. Как это произошло, напомнили naviny.by, процитировавшие материалы уголовного дела. Следствие установило, что В.А. Ромашкевич, «являясь гендиректором завода, в период с 8 января 2002 года по 5 октября 2004 года, действуя в составе организованной группы, с использованием своих служебных полномочий завладел имуществом предприятия на сумму 548 117 997 рублей». Также он продолжил свои преступные действия и в должности исполняющего обязанности генерального директора ЧПУП «Пищевой комбинат Белкоопсоюза», где «с 31 марта по 25 августа 2005 года, действуя в составе организованной группы, с использованием своих служебных полномочий завладел имуществом пищевого комбината на сумму 128 223 415 рублей».

*(Начало. Оконч. на стр.7)*

*грамадства*

# НА МОГИЛЕВЩИНЕ СЕЛЬСКИЕ ЖИТЕЛИ ПОКУПАЮТ ПРОДУКТЫ ПИТАНИЯ В ДОЛГ

***Из-за экономического кризиса жители белорусских деревень вынуждены брать в долг в магазинах продукты питания. Практически во всех райцентрах Могилевской области сельские магазины выдают кредиты для покупки еды.***

Май в Беларуси традиционно дает старт новому дачному сезону. После затянувшихся холодов горожане выезжают проверить свои загородные дома, и заодно обращают внимание на ассортимент сельских торговых точек, в которых придется закупаться в ближайшие три-четыре месяца. На этот раз многим дачникам бросилось в глаза, что большинство сельских жителей берут продукты питания в сельмагах в долг. Оказалось, что это явление давно стало массовым. Его главная причина - низкие зарплаты сельчан.

На практике покупка продуктов в долг выглядит следующим образом. Продавцы сельских магазинов, знающие в лицо каждого жителя деревни, записывают в обычную школьную тетрадь дату, наименование и стоимость товара, взятого без оплаты.

При этом чек через кассовый аппарат не пробивается, официальное оформление покупки происходит только в день зарплаты должников, когда у них появляются наличные деньги. Это делается на случай ревизии, ведь количество денег в кассе должно всегда совпадать с общей суммой чеков.

Предельный размер кредита в каждом магазине свой. Как правило, на хлеб и молоко до последнего времени зарплаты хватало всем, но вот уже колбасу или мясные продукты приходится брать в долг. Продавцы разводят руками: а что делать, если у людей физически нет денег, ведь питаться им чем-то нужно. В сельской местности появилось даже устойчивое выражение “записать на вексель”.

На официальном уровне дальше всех пошел Славгородский райисполком. На планерке у главы района было принято решение “о возобновлении в магазинах района системы продажи товаров первой необходимости в кредит”. Максимальная сумма кредита определена в 300 тысяч рублей (около 30 евро в эквиваленте) на одного покупателя, алкоголь и табачные изделия давать в долг не разрешается. Об этом решении сообщила даже местная газета “Прысожскі край”.

Славгородский поэт и публицист, ветеран войны Феликс Шкирманков критически относится к инициативе райисполкома. “Это напоминает какую-то игру”, - сетует Шкирманков. Ведь весь район, по его словам, прекрасно знает, что продукты в долг неофициально магазины отпускали всегда, а власти делают вид, будто только сейчас вынуждены прибегнуть к практике, существовавшей в кризисные 90-е годы.

Со стороны это может выглядеть как забота о необеспеченных гражданах. Однако, по наблюдению Шкирманкова, ситуация представляется странной, поскольку многие жители района получают зарплату, размер которой ниже, чем пенсии у пожилых людей.

Аналогичное положение и в других районах области. Житель агрогородка Большая Мощеница Борис Вырвич, будучи редактором местной малотиражной независимой газеты, отслеживает социально-экономическую ситуацию в регионе и в качестве примера рассказывает о своем родном Белыничском районе.

Тамошнее хозяйство “Новая Друть” несколько лет назад было




преобразовано в открытое акционерное общество, которое до недавнего времени находилось на балансе Нацбанка Беларуси. Заработная плата здесь доходит до двух миллионов рублей (около 200 евро), что по сельским меркам считается высоким доходом. Но даже самое богатое хозяйство района кредитует покупку продуктов питания для своих работников.

Борис Вырвич объясняет это тем, что жизнь в деревне стоит дороже городской, и зарплат не хватает. Например, для отопления деревенского дома в сезон требуется две машины дров. По государственным расценкам это обойдется примерно в миллион рублей.

Горожане такую же сумму платят за трехкомнатную квартиру, но в их платеже кроме отопления также учтены расходы на водопровод, канализацию и другие бытовые услуги, которых в деревне нет. Похожая ситуация и с продуктами питания. В сельских магазинах они стоят на пару процентов дороже, чем в городе, что объясняется транспортными расходами и

*(Начало. Окончание на стр. 6)*

# НА МОГИЛЕВЩИНЕ СЕЛЬСКИЕ ЖИТЕЛИ ПОКУПАЮТ ПРОДУКТЫ ПИТАНИЯ В ДОЛГ



*(Оконч. Начало на стр. 5)*

дополнительной торговой наценкой.

Жители Большой Мощаницы развеяли миф и о том, что сельчане выживают за счет ведения натурального хозяйства. В течение последних трех лет большинство деревенских подворий, по словам сельчан, отказались от домашнего животноводства, оно больше не оправдывает себя. Как и в городе, самые обеспеченные сельские жители зарабатывают деньги в соседней России. Часть местных жителей профессионально занимаются сбором грибов и ягод, за три месяца сезона обеспечивая себя на год вперед. Работа в колхозе считается самым невыгодным вариантом трудоустройства.

Для полноты картины жители агрогородка посоветовали проехать десять километров в сторону Могилева до деревни Светиловичи, принадлежащей бывшему колхозу имени Заслонова. Здесь сложилась самая удручающая ситуация. Работники хозяйства признались, что их зарплата не дотягивает даже до минимальной, размер которой составляет 870 тысяч рублей. Это в свою очередь сказывается и на торговле. За полтора часа во время обеденного перерыва у работников хозяйства в магазине побывало всего два покупателя.

Продавцы торговых точек признают, что если не давать продукты в кредит, то магазины можно закрывать, поскольку они будут убыточными. Сельмагам доведены планы по объемам продаж, которые нужно выполнять - несмотря на низкую покупательскую способность граждан. К тому же в ассортименте обязательно присутствуют скоропортящиеся товары. Их всегда выгоднее отпустить в долг, чем потом выбросить из-за того, что они испортились. Другого выхода сейчас, похоже, просто нет.

***Александр Бураков, “Немецкая волна”***

# МАЛЫЯ ДЗЕЦІ ЛЕДЗЬ НЕ ПУСЦІЛІ ПАД АДХОН ЦЯГНІК У МАГІЛЁВЕ

Такога не было ад часоў вайны, сведчаць знаўцы гісторыі.

У Магілёве 26 мая супрацоўнікамі інспекцыі па справах непаўналетніх мясцовага аддзела ўнутраных спраў на транспарце былі затрыманыя выхаванкі аднаго з дзіцячых садоў.

Дзяўчынкі 5 і 6 гадоў накладвалі на рэйкі друз на 135-м кіламетры перагона Магілёў-1 — Магілёў-3.

Спецыялісты сцвярджаюць, што наезд цягніка на такую перашкоду можа пусціць яго пад адхон.

У дачыненні да бацькоў дзетсадавак складзеныя адміністрацыйныя пратаколы на падставе ч. 1 арт. 9/4 КаАП (невыкананне абавязкаў па выхаванні дзяцей). Санкцыі — папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь (1 млн рублёў).

Варта адзначыць, што праваапарушальнікі такога ўзросту за накладанне друзу на рэйкі затрымліваюцца ўпершыню. У асноўным гэтым займаюцца школьнікі.

***БЕЛАПАН***

# 10 000 ЭЛЕКТРОННЫХ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ У АДНЫМ МЕСЦЫ.

**Кнігі, аўдыё кнігі, газеты, аўдыё і відэа – усё гэта можна знайсці ў беларускай Інтэрнэт-бібліятэцы Kamunikat.org (www.kamunikat.org).**

**Існуючы з 2000 года партал арыентаваны, у асноўным, на збор незалежных беларускіх выданняў, што з’яўляюцца вельмі нізкім тыражом. Ёсць і гістарычныя выданні: кнігі, газеты і часопісы, выдадзеныя ў Беларусі і ў эміграцыі.**

**Большая частка публікацый выстаўлена ў электронным выглядзе ўпершыню. Вы знойдзеце не толькі класікаў беларускай літаратуры, але і авангард.**

**Унікальнасцю гэтай калекцыі з’яўляецца тое, што за апошнія тры гады яна была ўзбагацілася поўны зборам беларускай эміграцыйнай прэсы пасляваеннага перыяд і беларускіх незалежных газет з пачатку 90-х XX стагоддзя.**

**Асобнай часткай бібліятэкі з’яўляюцца асабістыя старонкі беларускіх аўтараў, чые кнігі знаходзяцца ў нашай бібліятэцы (http://kamunikat.org/bielaruskija_autary.html) і раздзел “Што новага” (http://kamunikat.org/naviny.html), які дае магчымасць знаёміцца з навінкамі беларускага выдавецкага рынку.**

**Да гэтага часу на сайце сабрана больш за 10 000 беларускіх публікацыяў – кніжак, газэтаў, часопісаў, audio- і video-файляў, а яе рэсурсы ўвесь час пашыраюцца.**

**Бібліятэка карысная для студэнтаў і выкладчыкаў, вучняў і даследчыкаў. Бібліятэка спрыяе распаўсюду беларускай літаратуры, сягаючы ў самыя аддаленыя кропкі свету. Штодзённа бібліятэку адчыняюць ад 1500 да 2000 разоў.**

**Праект “Беларуская інтэрнэт бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, на працягу некалькіх гадоў мае фінансавую падтрымку Міністэрства замежных спраў Польшчы ў рамках праграмы «Польская дапамога”.**

Беражыце лес – чытайце кнігі на Kamunikat.org! ;)

## КТО ЗАПЛАТИТ ГОСУДАРСТВУ — БЫВШИЙ ДИРЕКТОР ЛВЗ ИЛИ ЕГО БЫВШАЯ ЖЕНА?

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

Как отмечает Виктор Федорович, очевидно, что правосудие не забыло проиндексировать ущерб: в места не столь отдалённые осуждённый Ромашкевич прибыл уже с иском, превышающим 2,7 млрд. рублей. За три последовавших после этого года отсидки он погасил лишь 724 950 рублей. Ясно, что в условиях ИТК добиться больших результатов весьма и весьма проблематично. И совершенно понятно, что сегодня бывший гендиректор ЛВЗ при всём желании просто не в состоянии рассчитаться по миллиардным долгам с государством. Что же последовало дальше? Администрация колонии, где Ромашкевич отбывает наказание, предложила это сделать… его бывшей жене.

Как сообщили интернет-газете Naviny.by в ИПУ «Платформа», женщина получила из ИК-19 (Могилёв) извещение о том, что осуждённый В.А. Ромашкевич нанёс материальный ущерб государству на сумму 2 792 830 333 рубля, а «на сегодняшний день (12 апреля 2012 года. — Naviny.by) сумма задолженности составляет 2 792 105 383 рубля». При этом начальство колонии почему-то совсем не смутило то, что с этой женщиной Вячеслав Ромашкевич давно находится в разводе. Но дело, собственно, даже не в этом.

Журналист Виктор Федорович абсолютно верно указывает на то, что деятельность правоохранительной системы вызывает массу вопросов. Например, система нацелена на возмещение ущерба по экономическим и уголовным преступлениям, и готова выполнять эту задачу, наверное, любой ценой. Любой и к тому же не самой эффективной и оправданной. Видимо, проще просить деньги, нежели создавать условия, при которых осуждённые могут продуктивно работать и зарабатывать деньги для государства.

Об этом красноречиво свидетельствует текст типового извещения, которое получила бывшая супруга осуждённого: «Администрация учреждения обращается к вам с просьбой оказать посильную помощь в погашении нанесённого материального ущерба вашим мужем. Денежные средства для этого (в полном объеме или частями) вы можете почтовым переводом направить в колонию на имя вашего мужа либо погасить иск через суд».

Как говорится, окажите посильную помощь, пришлите миллиард почтовым переводом. Честное слово, это было бы смешно, если бы не было так грустно.

***Тимур НЕЗВАНОВ***



# СТАПТАНЫЯ АБЦАСЫ



… Мае новыя па ўсіх параметрах туфлі займелі адну хібу звычайнага для любога абутку характару. А менвіта – скасіліся-стапталіся абцасы. Ну, падумаеш праблема, — занадта аптымістычна (як сталася хутка зразумела) і паспешліва падумаў я. І падаўся ў наш раённы, чэрыкаўскі, Дом быту.

Захожу ў майстэрню па рамонту абутку. Пакруціла прфёмшчыца мае туфлі туды-сюды ў руках і гаворыць:

-Выбачайце, але паправіць вашыя абцасы не зможам, бо тут нада клеіць, а не прыбіваць цвікамі. А для склейвання ў нас ні абсталявання, ні матэрыялу патрэбнага няма. Так што вязіце вашыя туфлі ў Магілёў.

Ну, тут я з аднаго боку пагляздзеў на свае "незвычайныя" туфлі з павагай, маўляў, і не знаў, што яны ў мяне не такія і звычайныя.Прыглядзеўся – ды не, самыя што ні на ёсць айчынныя, гродненскага вырабу. Звычайня мужчынскія туфлі. Ну, я канешне, не такі спецыяліст, каб зразумець дзе тут цвікі, а дзе склейка. Аднак жа думаю, што тэхналогія гэта тэхналогія, яе трэба паважаць. Зразумела таксама і тое, што склейванне – нешта больш сучасна тэхналагічнае, чым стуканне малатком па падэшвах ці абцасах. Не ў боты ўсё ж кірзовыя абутае наша насельніцтва, а, як там не хочыце, але ў мадэльны, сучасны абутак. Вось толькі чаму гэта ў нашым Чэрыкаве тыя, хто абавязаны абслугоўваць нашы бытавыя патрэбы, гэтага не ведаюць? Вось што дзіўна…

*(Пачатак. Заканч. на стар. 8)*

## СТАПТАНЫЯ АБЦАСЫ

*(Заканч. Пачатак на стар. 7)*

Ды, відаць, дырэкцыі Дома быту і без таго добра. І план выконваецца без залішняга там развіцця абслугі, і прэміі ад таго ідуць, і галава не баліць, каб адправіць людзей на патрэбную прафесійную вучобу, каб замовіць і набыць неабходнае абсталяванне. Навошта, калі можна жыць і без гэтага. Мы ж, пэўна думае дырэктар Дома быту спн. Святлана Кулікава, не адварочваемся ад людзей з іх “складанымі” абцасамі, даем ім карысную параду – вязіце ў губернію. А ці падумала тая ж шаноўная сп. Святлана Аляксееўна, ў ва што гэта абыйдзецца чалавеку? Падлічым разам!

Паездка на маршрутным аўтобусе з Чэрыкава ў абласны цэнтр, каб здаць абутак у рамонт, і вярнуцца назад будзе каштаваць самае малае 60 тыс. рублёў. Праз нейкі час, па выкананні рамонту, з’ездзіць яшчэ раз туды-сюды – яшчэ 60 тыс. Ну, і само сабой, што сюды дадаць трэба і кошт самога рамонту… Ці не занадта дорага, пры тым, што і нерацыянальна. Бо затраты, так бы мовіць, папутныя (на дарогу) могуць значна ўцяжэліць агульны кошт вырашэння такой па сутнасці дробнай, звычайнай, штодзённай пабытовай праблемы, пра якую і гаварыць-та ў наша 21-е стагоддзе не варта!

Але даводзіцца, як бачым. Бо для цэлага раёна вырашэнне гэтай праблемы на практыцы аказваецца не па сілах.

Падумалася, а няўжо сп. Мікалай Кадаценка, старшыня райвыканкама, і ўся ягоная чыноўная раць, не маюць час ад часу (нават калі носяць не гарадзенскі, а самы што-ні на ёсць італьянскі абутак) патрэбы ў рамонце сваіх абцасаў ці падэшваў? І адказ тут жа і знайшоўся – яны ж могуць папутна са справамі ў абласным цэнтры, а тое і адмыслова, заехаць там у любую майстэрню – на службовай машыне, канешне. Няма для іх тут ніякай праблемы, а таму можа і не ведаюць пра яе, альбо не звяртаюць увагі, бо яна для іх вырашальная. А тое, што вырашальная лёгка яна выключна для іх, у іхным становішчы – на гэта не зважаюць. На тыя ж працэнты і аб’ёмы бытавога абслугоўвання зважаюць – раёнка перыядычна друкуе розныя вынікі за кварталы, паўгоддзі і ўсё у іх, што тычыцца сферы (салідна так гучыць – сфера!) бытавога абслугоўвання добра і амаль што выдатна. А дзе там за гэтымі лічбамі мае туфлі са стаптанымі абцасамі… адразу і не ўбачыць.

Але ж я сам бачу! І шмат хто яшчэ, калі апынаецца ў такой жа сытуацыі. А хто ўбачыць гэта з тых, каму гэта належыць, як гаворыцца, па службе?!

***Сямён Сямёнаў***

## ЯКАЯ ЭФЕКТЫЎНАСЦЬ ПРАЦЫ БЯЛЫНІЦКАЙ МІЛІЦЫІ?

У Бялыніцкім раёне за сем гадоў так і не знайшлі забойцаў сям’і з шасці чалавек.

Супрацоўнікі Бялыніцкай міліцыі за сем гадоў так і не здолелі знайсці забойцаў сям’і з шасці чалавек у вёсцы Вялікая Машчаніца. Злачынства застаецца не расследаваным да гэтага часу, хоць адразу пасля забойства кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка даў супрацоўнікам праваахоўных органаў толькі некалькі дзён на яго раскрыццё. Як паведамляе бялыніцкая незалежная газета “Паходня”, расследванне ў чарговы раз працягнута, і калі яно будзе скончана, супрацоўнікі міліцыі адказаць не могуць.

Нагадаем, што ў ноч з 31 мая на 1 чэрвеня 2005 года ў вёсцы Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна была забіта сям’я з шасці чалавек, у тым ліку двое маленькіх дзяцей. Сям’я пераехала ў вёску з Бялыніч крыху раней, прадаўшы ў гарадскім пасёлку кватэру і набыўшы ў Машчаніцы прыватны дом. Злачынства набыло шырокі рэзананс, такога жудаснага забойства не было за ўсю пасляваенную гісторыю Беларусі. Сам кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў ад супрацоўнікаў пракуратуры і міліцыі знайці забойцаў як мага хутчэй. Супрацоўнікі праваахоўных органаў выканалі загад і знайшлі падазраваных у здзяйсненні злачынства вельмі хутка, ужо праз дзень былі затрыманы пяцёра маладых людзей ва ўзросце ад 18 да 24 гадоў з гэтай жа вёскі, ім неўзабаве было прад’яўлена абвінавачанне ў забойстве.



Аднак 2 лістапада 2007 года судовая калегія Магілёўскага абласнога суда ўсім пяцярым хлопцам вынесла апраўдальны прысуд у сувязі з недаказанасцю віны.

Адказу на пытанне, хто забіў сям’ю з шасці чалавек і чаму не панёс за гэта пакаранне, простыя грамадзяне атрымаць не могуць да гэтага часу. Расследаванне працягнута ў чарговы раз, і калі яно будзе скончана, не могуць адказаць нават вялікія міліцэйскія начальнікі. Вядома таксама, што следства не выключае версіі, што ў забойстве ўдзельнічаў хтосьці з раней затрыманых па “Машчаніцкай” справе. Былыя арыштанты па-ранейшаму адчуваюць пільную ўвагу з боку супрацоўнікаў міліцыі.

***Багдан Іваноў***

*магілёўскі* **Выбар**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 01.06.2012 г. у 19-00.